# Ніва



## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК



ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 25 (799) ГОД XVI БЕЛАСТОК 20 ЧЭРВЕНЯ 1971 г. ЦАНА 60 гр.

НА ШЛЯХУ ДА КАЎБАС І КАТЛЕТАЎ




Усе мы любім румяную адбіўную катлету, любім таксама смачную каўбасу — асабліва вясковую, сушаную, якую гаспадыні робяць толькі ім вядомым спосабам.

Аднак шлях да каўбас і катлетаў вельмі складаны. Пачынаецца ён у сялянскіх хлявах і на зялёных прасторах балота, на палях, дзе нівы кланяюцца зямлі, ды сягае да кабінетаў розных чыноўнікаў, спецыялістаў і арганізатараў вясковай прадукцыі. Пахне ён потам земляроба і застаецца ў цэнтры зацікаўлення і малых і найвышэйшых улад.

Што ж, варта тады і нам паглядзець, што чаўпецца на гэтым шляху?

Для гэтага выкарыстаем факты, якія ўдалося нам сабраць у мілейчыцкай грамадзе. Нядаўна радныя гэтай грамады прысвяцілі асобную сваю сесію менавіта абмяркоўцы пытанняў «са шляху да каўбас і катлетаў». Са спрэчак на гэтай сесіі і з яе дакументаў вынікае, што жывёлагадоўля можа вырататаваць мілейчыцкае — тыпова сялянскае наваколле ад гаспадарчага заняпаду, бо на вялікія поспехі ў прадукцыі збожжа тутэйшыя сяляне разлічваць не могуць. На зямлі пятага і шостага класаў цяжка дабіцца высокага ўраджаю, які апраўдваў бы цяжкую працу гаспадара.

У вёсках Мілейчыцы, Клімковічы і Грабарка сенажаць і паша займаюць

Працяг на стар. 4



*Данута Хмур — вучаніца беларускага ліцэя ў Бельску — прыгожа спявае. Яна паспяхова выступіла на цэнтральным аглядзе «Беларуская песня — 71», здабываючы заслужаныя апладысменты беластачан.*

*Фота Цаф — Сянько*




■ З нагоды Дня дзеяча культуры, які ў Сямяціцкім павеце адзначаўся ў канцы мая, актывісты БГКТ атрымалі ўзнагароды ад павятовай рады нарадовай. Анатолю Мартыновічу, Сяргею Крэйзу, Тадэушу Вавжыняку і Ірэне Мішчук уручаны былі грашовыя ўзнагароды. Міхась Вішанка атрымаў дыплом.

■ Бельскі хор БГКТ пад мастацкім кіраўніцтвам Сяргея Лукашука 30-га мая выступіў на Сакольшчыне каля вёскі Панятова на павятовай урачыстасці, прысвечанай Людоваму святу (святу вёскі).

■ 2-га чэрвеня адбылося пасяджэнне прэзідыума дуброўскага аддзела БГКТ. Былі на ім разгледжаны справы падрыхтоўкі ўрачыстага пленума, прысвечанага 15-ай гадавіне БГКТ, а таксама фэстыну. У пасяджэнні гэтым прыняў удзел кіраўнік арганізацыйнага аддзела ГП Ліда Антанюк.

■ Прэзідыум сакольскага аддзела 3-га чэрвеня таксама абмяркоўваў арганізацыйныя справы, звязаныя з фэстынам БГКТ.

■ Ад 2-га да 5-га чэрвеня ўключна прабывала на Беласточчыне Ядвіга Раманоўская — галоўны захавальнік фондаў літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. У суправаджэнні сакратара ГП Янкі Зенюка наведала беларускі этнаграфічны музей у Белавежы, а таксама пабывала ў Гарадку ў доме культуры імя Кастуся Каліноўскага, дзе таксама сардэчна яе віталі актывісты нашага таварыства. У Беластоку спаткалася яна з журналістамі «Нівы», працаўнікамі Галоўнага праўлення БГКТ, ваяводскага праўлення польска-савецкай дружбы, а таксама пабывала ў двух музеях: акруговым этнаграфічным і рэвалюцыйнага руху.

■ У рамах культурна-асветнага фестывалю прафсаюзаў была арганізавана паездка на Келеччыну з мэтай абмену вопытам працаўнікоў паасобных клубаў. Ад ГП у гэтым мерапрыемстве (адбылося 3—6 чэрвеня) прынялі ўдзел кіраўнік культурна-асветнага аддзела БГКТ Сяргей Лукашук і сакратар гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку Зося Стаськевіч.

■ 6-га чэрвеня ў Мілейчыцах адбылося ўрачыстае пленарнае пасяджэнне сямяціцкага аддзела, прысвечанае 15-ай гадавіне Беларускага таварыства. З дакладам на гэтую тэму выступіў старшыня аддзела Анатоль Мартыновіч. На пленуме прысутнічалі: намеснік старшыні павятовай рады нарадовай у Сямяцічах Маўрыцы Паўтарак, кіраўнік упраўлення ўнутраных спраў павятовай рады нарадовай Яўгень Леўчук, сакратар гарадскога камітэта ПАРП Андрэй Датчук і старшыня павятовага праўлення Саюза вясковай моладзі Уладзімір Грох. Галоўнае праўленне прадстаўлялі старшыня ГП Міхась Хмялеўскі і кіраўнік гаспадарчага аддзела Кастусь Хлябіч. Вёў пленум Сяргей Крэйза.

Дзеячам БГКТ, якія адначасова актыўна ўключаюцца ў працу ў іншых арганізацыях, былі ўручаны ўзнагароды. Маўрыцы Паўтарак (ён ёсць і ва ўладах ТППР) уручыў Ганаровую залатую адзнаку ТППР Кастусю Пытлюку з Клюковіч і Леаніду Вішанку з Сямяціч, а Уладзімір Грох уручыў Залатую адзнаку ЗМВ Мікалаю Куптэлю з Літвінавіч. 10-ці асобам уручаны былі дыпломы ГП БГКТ, а Сяргею Крэйзе грашовая ўзнагарода ГП. (мх)

Трыццаць гадоў таму назад, 22 чэрвеня 1941 года, гітлераўская Германія развязала агрэсіўную вайну супраць СССР. Пачалася самая цяжкая з войнаў у гісторыі народаў Савецкага Саюза... Але 22 чэрвеня 1941 года з'явілася і пачаткам краху германска-фашысцкай імперыі і задуманых нямецкім імперыялізмам планаў заваявання сусветнага панавання.

# ПРАВАЛ ПЛАНА „БАРБАРОСА"

Нападзенне гітлераўскіх орд на Краіну Саветаў было вераломнае, а значыць, у пэўнай ступені нечаканае. Зразумела, вераломству кіраўніцтва тагачаснай Германіі мала хто здзіўляўся. Пасля аншлюсу Аўстрыі, захопу Чэхаславакіі, правакацыі ля Глевійца, якая была выкарыстана як прычына для нападзення на Польшчу, і іншых агрэсіўных актаў ад фашыстаў можна было ўсяго чакаць. І ўсё-такі тое, што адбылося ў нядзелю, 22 чэрвеня 1941 года, пераўзыходзіць па сваёй жудаснасці, цынізму, бессаромнасці ўсё, што вядома дагэтуль у гісторыі.

Заключаючы 23 жніўня 1939 года дагавор паміж Германіяй і СССР аб ненападзенні, фашысцкія лідэры ўжо абдумвалі, як яго парушыць. Так яны дзейнічалі і ў далейшым. 18 снежня 1940 года Гітлер падпісаў дырэктыву № 21 (план «Барбароса») аб нападзенні на Савецкі Саюз, а на наступны дзень прыняў савецкага пасла і запэўніваў яго ў лаяльнасці. Нават дзень нападзення — нядзеля — быў выбраны не без намеру: савецкія людзі пасля працоўнага тыдня будуць адпачываць, іх можна застаць знянацку, больш забіць і пакалечыць.

Не, гэта была не пагоня аднаго шалёнага фюрэра за «герастратавай славай». Гэта было скрупулёзна прадуманае і спланаванае, старанна падрыхтаванае і ў матэрыяльным, і ў ідэалагічным плане палітычнае і ваеннае злачынства супраць чалавецтва.

Планавалася знішчэнне цэлай многанацыянальнай дзяржавы, знішчэнне славянскіх народаў, ліквідацыя сацыялістычнага ладу і ўсіх заваёў Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Колькі саманадзейнасці і самаўпэўненасці было ў разважаннях Гітлера і яго прыбліжаных, калі яны распрацоўвалі план паходу на Усход! «Да заканчэння вайны з Англіяй перамагчы шляхам маланкавай ваеннай аперацыі Савецкую Расію», — было запісана ў плане «Барбароса». «Чырвоная Армія, — гаварыў Гітлер на нарадзе 9 студзеня 1941 года, — гэта гліняны калос без галавы». У маі таго ж года ён, выхваляючыся, заявіў: «Калі я пайду на Маскву, я выступлю дастаткова рана, каб дасягнуць яе да зімы». Гітлер тлумачыў сваім генералам, што мэта кампаніі заключаецца ў тым, каб канчаткова знішчыць Савецкі Саюз як кантынентальную дзяржаву, як сацыялістычную краіну.

Аднак і на гэтым не ставілася кропка. Далей — захоп іншых краін, заваяванне ўсяго свету. «Гіганцкія прасторы Расіі тояць у сабе незлічоныя багацці, — гаварыў Гітлер на адной з нарад. — Германія павінна эканамічна і палітычна авалодаць гэтымі прасторамі... Тым самым яна будзе мець усе магчымасці для вядзення ў будучым барацьбы супраць кантынентаў... «Гісторыкамі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі знойдзены дакументы фашысцкага вермахта, з якіх відаць, што следам за захопам Савецкага Саюза Гітлер і яго памагатыя планавалі акупацыю Азіі, Арабскага Усходу і стварэнне «суцэльнай нямецкай каланіяльнай імперыі ў Цэнтральнай Афрыцы».

Поспехі вермахта ў захопе Аўстрыі і Чэхаславакіі, у вайне супраць Польшчы і Францыі дзейнічалі на фашыстаў ап'яняюча. Страты былі нязначныя, набыткі велізарныя. Вялікабрытанія, хоць і рашуча адмовілася здавацца на літасць пераможцы, была ў 1940 годзе не здольная не толькі нанесці адчувальны ўдар ворагу, але цярпела паражэнне нават у вайне на моры. Гітлераўская Германія к моманту нападзення на СССР

(Працяг на стар. 6)

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

## СВЕТ

### ПАЛЁТ СТАНЦЫІ «САЛЮТ»

Калі пішам гэтую інфармацыю, савецкія касманаўты Георгій Дабравольскі, Уладзімір Волкаў і Віктар Пацаеў распачалі другі тыдзень працы ў космасе на арбітальнай навуковай станцыі «Салют».

Экіпаж «Салюта» праводзіў кансервацыю шэрагу сістэм карабля «Саюз—11». Касманаўты не раз праводзілі медыкабіялагічныя эксперыменты. Для падтрымання добрага фізічнага стану ў палёце імі выкарыстоўваліся спецыяльныя нагрузачныя касцюмы, з дапамогай якіх ажыццяўлялася імітацыя зямной нагрузкі на косна-мышачную сістэму чалавека.

### ЭКАНАМІЧНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

8-га чэрвеня ў Крамлі адбыліся перагаворы паміж Старшынёй Савета Міністраў СССР А.Касыгіным і Старшынёй Савета Міністраў ПНР П. Ярашэвічам.

У ходзе перагавораў былі прааналізаваны вынікі і вопыт двухбаковага эканамічнага супрацоўніцтва паміж СССР і Польшчай за апошнія гады і намечаны канкрэтныя меры па далейшаму развіццю савецка-польскага эканамічнага супрацоўніцтва на 1971—1975 гады.

Былі падпісаны пагадненні:

— аб далейшым расшырэнні таваразвароту паміж абедзвюма краінамі на 1972—1975 гады, звыш аб'ёмаў, вызначаных на гэтыя гады доўгатэрміновым гандлёвым пагадненнем;

— аб пастаўцы з СССР у Польшчу ў 1971—75 гадах камплектнага абсталявання і аказанні тэхнічнага садзейнічання Польшчы ў будаўніцтве і расшырэнні прамысловых прадпрыемстваў і аб'ектаў;

— аб вытворча-тэхнічным кааператаванні паміж СССР і Польшчай у галіне электронна-вылічальнай тэхнікі.

### РУМЫНЫ Ў КІТАІ

У Пекіне адбыліся перагаворы паміж партыйна-ўрадавай дэлегацыяй Румыніі на чале з Генеральным сакратаром РКП, Старшынёй Дзяржаўнага савета СРР Н. Чаушэску з Прэм'ерам Дзяржаўнага савета КНР Чжоў Энь-лаем і іншымі афіцыйнымі асобамі. Дэлегацыя была прынята Мао Цзэ-дунам.

### ЯДЗЕРНЫЯ ВЫБУХІ

Францыя пачала серыю ядзерных выпрабаванняў, прадугледжаных праграмай 1971 года. Над лагунай атола Муруроа, у Ціхім акіяне, нядаўна быў зроблены выбух ядзернай канструкцыі невялікай магутнасці.

Гэта — 23-ці ядзерны выбух, праведзены Францыяй у Ціхім акіяне.

### У АБСТАНОЎЦЫ НАСІЛЛЯ

У параўнанні з 1969 годам у Лондане значна ўзрасла колькасць такіх злачынстваў, як абрабаванні і згвалтаванні. У мінулым годзе злачынцы выкралі грошай і маёмасці на суму амаль 3 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў.

Паведаміў аб гэтым камісар паліцыі вялікага Лондана Дж. Уолдарн. (ак)

## БССР

### ВЫБАРЫ

У БССР, таксама як і ў іншых рэспубліках Краіны Саветаў, у мінулую нядзелю, 13 чэрвеня адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет Беларусі і ў іншыя мясцовыя Саветы. Як вынікае з першых паведамленняў, выбары прайшлі спраўна пры вельмі высокай прысутнасці выбаршчыкаў. Аб некаторых выніках гэтых выбараў напішам у наступным тыдні.

### ПАСЛЯ 50 ГОД

Аўтарам «Інтэрнацыянала» з'яўляецца паэт Парыжскай Камуны Эжэн Пацье, а беларускі пераклад гэтага гімна рэвалюцыянераў свету зрабіў у 1921 годзе вядомы паэт Янка Купала. Дзеля адзначэння гэтай знамянальнай падзеі ў 50-ю гадавіну паяўлення беларускага перакладу «Інтэрнацыянала» быў наладжаны ў літаратурным музеі Янкі Купалы ўрачысты інтэрнацыянальны вечар. Хор беларускага радыё і тэлебачання праспяваў на беларускай мове «Інтэрнацыянал», а паэт Я. Семяжон расказаў прысутным аб рабоце Я. Купалы над яго перакладам. Затым замежныя студэнты чыталі вершы Янкі Купалы на сваіх родных мовах, між іншым, і на польскай.

### САЛІГОРСКІЯ ШАХЦЁРЫ

З горада, якога да нядаўна яшчэ не было на карце Беларусі — Салігорска. няспынна ідуць саставы з каліем і сільвінітам, ідуць на палі Савецкага Саюза і замежных краін, сярод якіх на першым месцы знаходзіцца Польшча.

Нядаўна брыгада салігорскіх шахцёраў, якой кіруе С. Казакевіч, устанавіла сусветны рэкорд па хуткасці бурэння горных парод. За месяц часу прайшлі яны 4551 метр падземельнай «дарогі», дабываючы сыравіну для прадукцыі каштоўных угнаенняў палёў.

### САДЫ БЕЛАРУСІ

Працвілі ўжо сады. Іх на тэрыторыі БССР налічваецца зараз аж 170 тысяч гектараў. Цяпер у Беларусі вельмі ўважліва і клапатліва адносяцца да садаводства. Вучоныя вывелі звыш 40 новых гатункаў пладовых культур, дык прадаюцца на кірмашах яблыкі «Мінскае», «Беларускі сінап», «Бананавае», ігрушы — «Бэра Локшыцкая», «Бэра ранняя» і многія іншыя.

### АБ ПОЛЬСКІМ ПАЭЦЕ

Пра кніжку вершаў польскага паэта Рышарда Станіслава Дабравольскага «Як хлеб і сонца», якую ў перакладзе на беларускую мову выпусціла ў мінулым годзе выдавецтва «Беларусь» (тыраж 1700 экз., цана 34 кап.), мы ўжо інфармавалі нашым чытачам. Сёння хочам пазнаёміць вас з адным з водгукаў крытыкі на гэтую кніжку. У майскім журнале «Беларусь» мы прачыталі: «У кнігу ўключаны лепшыя вершы Станіслава Рышарда Дабравольскага — аднаго з таленавітых прадстаўнікоў сучаснай польскай паэзіі. Лірычны герой Дабравольскага ведае сваё месца ў жыцці. Ён моцна звязаны з народам, з яго спадзяваннямі і надзеямі. Гісторыя Польшчы, сённяшняе і будучае яе жывяць патрыятычны дух многіх твораў паэта». Ацэнка, як відаць, высокая. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### З ВІЗІТАМ У Ю. ЦЫРАНКЕВІЧА

Група лаўрэатаў ЗМС-аўскага плебісцыта на найлепшага майстра-настаўніка і выхавацеля моладзі правяло сустрэчу ў Бельведэры са старшынёю Рады Дзяржавы Ю. Цыранкевічам. На сустрэчы гаварылася, між іншым, аб ролі выхаваўчай працы майстроў на прадпрыемстве, якія з'яўляюцца беспасрэднымі кіраўнікамі маладых рабочых.

### ЖУРНАЛІСТЫ Ў Э. ГЕРКА

У сувязі з VIII з'ездам СДП (Аб'яднанне польскіх журналістаў) Прэзідыум Галоўнага праўлення СДП правёў сустрэчу з I сакратаром ЦК ПАРП Э. Геркам, на якой гаварылася аб ролі і задачах сродкаў масавай інфармацыі і прапаганды ў разбуджванні палітычнай актыўнасці цэлага грамадства, а таксама ў ліквідацыі перашкод, якія з'яўляюцца тормазам у развіцці нашай краіны. I сакратар ЦК цікавіўся тэхнічнай базай сродкаў масавай інфармацыі, умовамі працы і жыцця журналістаў і г.д.

Перадаў ён усяму журналісцкаму асяроддзю свае сардэчныя пажаданні.

### ЗА 28 МІЛЬЯРДАЎ ЗЛОТЫХ

У дзяржаўнай тэрэновай прамысловасці працуе каля 170 тысяч асоб. У мінулым годзе гэтая галіна прамысловасці выпусціла прадукцыю тавараў агульнай вартасці 28 мільярдаў злотых. Рада дзяржавы з нагоды традыцыйнага свята рабочых гэтай прамысловасці ўзнагародзіла высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі 116 асоб.

### КАРДОН

У Кельцах у гэтым годзе пабудуецца найбольшае ў краіне прадпрыемства папяровых вырабаў. Будзе яно выпускаць дэфіцытны ў краіне кардон і ўпакоўку.

### 1000 ДЗЯЦЕЙ

Больш 1000 дзяцей замежнай Палёніі выбіраецца на канікулы ў Польшчу. Для многіх будзе гэта першая сустрэча з краінай іх бацькоў. Найбольш дзяцей прыедзе з Францыі, затым з ЗША, Канады, Мексікі, Вялікабрытаніі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Швецыі, Швейцарыі і Заходняй Германіі. Свой адпачынак дзеці будуць праводзіць у найпрыгажэйшых мясцовасцях нашай краіны ў гарах і ля мора.

### 64 МІЛЬЁНЫ

На адбудову Каралеўскага замка ў Варшаве плывуць грошы з цэлай краіны, а таксама ад замежнай Палёніі. Прысылаюць грошы на гэтага роду мерапрыемства прадпрыемствы, інстытуцыі, арганізацыі і паасобныя грамадзяне. У апошні час штодзень паступае на конта адбудовы замка больш 300 тысяч злотых. Сабрана ўжо 64 мільёны злотых.

### ТАПЕЛЬЦЫ

У апошні перыяд топіцца ўсё больш у асноўным дзяцей і моладзі ва ўзросце да 18-ці год. У гэтым годзе ўтапілася ўжо 235 чалавек. Варта адзначыць, што топяцца перш за ўсё тыя, што не захоўваюць належнай асцярожнасці ля вады і ў вадзе, а таксама дзеці, якія не маюць апекі. (яц)

## ВАЯВОДСТВА

### К. БАРЦІКОЎСКІ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

9 чэрвеня на Беласточчыне пабываў сакратар ЦК партыі К. Барцікоўскі. Тав. Барцікоўскі ў суправаджэнні I сакратара ВК партыі А. Лашэвіча і іншых прадстаўнікоў ваяводскіх улад наведаў лугавы камбінат «Візна», пазнаёміўся тут з рэгуляцыяй ракі Нарвы, цікавіўся тэхналогіяй сушэння і сіласавання кармоў.

Пазней госць пабываў на беластоцкім складзе-халадзільніку, затым цікавіўся працай вучняў школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якія працуюць у ПГР-ах у рамах гуфцаў працы. З гэтай мэтай наш госць наведаў ПГР у Мікалайках (Элцкі павет), у Бажымах (Сямяцкі павет) і адзін з ПГР-аў у Голдапскім павеце.

### А. ЛАШЭВІЧ СЯРОД РАБОЧЫХ

У мінулым тыдні I сакратар ВК партыі тав. А. Лашэвіч наведаў Беластоцкую фабрыку склеек. У размове з рабочымі і кіраўніцтвам фабрыкі I сакратар цікавіўся выкананнем планавых заданняў, а таксама ўмовамі працы і сацыяльным забеспячэннем рабочых. I сакратар звярнуў увагу калектыву на неабходнасць увядзення большай механізацыі, асабліва ў цяжкіх работах, і палепшыць сацыяльныя ўмовы на фабрыцы. Кіраўніцтва фабрыкі паведаміла, што разбудова як у напрамку мадэрнізацыі, так і паляпшэння сацыяльных умоў працы, пачнецца ўжо ў наступным годзе.

### 5001 ТРАКТАР

9 чэрвеня ў Ганёндзы адбылася незвычайная ўрачыстасць: сельскагаспадарчы гурток гэтай мясцовасці атрымаў 5001-шы трактар на Беласточчыне. Першы трактар, прызначаны для сельскагаспадарчага гуртка ў нашым ваяводстве, атрымаў у 1959 годзе гурток у вёсцы Парасль-Вайславы Лапскага павета.

### II ФЕСТЫВАЛЬ ПРАФСАЮЗАЎ

Адбыўся ўжо ваяводскі агляд самадзейных калектываў, які праходзіць у рамках II агульнапольскага фестывалю прафсаюзаў. У першы дзень выступілі танцавальныя калектывы.

У наступныя дні — вакальныя і музычныя калектывы.

### НОВЫЯ ТКАНІНЫ

У лабараторыі фастаўскага камбіната спецыялісты вынайшлі новы спосаб такой апрацоўкі тканіны, каб яна не ўцягвала ў сябе бруд. Першая партыя брудаадпорных тканін на плашчы, абрусы і рабочыя камбінезоны выйдзе з фабрыкі яшчэ ў гэтым годзе.

Ужо ў трэцім квартале гэтага года пачнецца выраб брудаадпорнай тканіны на касцюмы.

### УРАДЖАЙ ТРУСКАЛАК

Ад 5 чэрвеня Ваяводскае халадзільнае прадпрыемства пачало скупку трускалак і іх замарожванне. У перыяд найбольшага збору прадугледжана скупляць па 220—240 тон у суткі. Для параўнання: у мінулыя гады прымалі толькі па 20—30 тон трускалак у суткі. Прычынай гэтага з'яўляюцца добрыя ўмовы ў халадзільніку і высокі ўраджай трускалак. Беластоцкія марожаныя ягады будуць высылацца на экспарт у ЗША, Канаду і многія краіны Еўропы. (яч)




**Niedziela 20.VI.**

7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy: „Lato 1971". 8.20 „Przypominamy, radzimy". 8.30 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych. 10.00 Dla dzieci: „Złote wrota" — piosenki dla dzieci (Praha). 10.50 „Młoda Gwardia" — film dok. radz. 12.05 Dziennik. 12.20 „Kompozytorzy okresu międzywojennego" (Polska Pieśń Artystyczną"). 13.05 „Przemiany". 13.35 Dla dzieci: Teatrzyk dla Przedszkolaków — „Zielone listy". 14.15 PKF. 14.25 Spotkania Teatralne: A. Mularczyk — „Próba generalna". 15.30 „Wyzwanie" — rep. film. 16.00 Olimpiada Wiedzy społeczno-politycznej ZMW. 17.00 Międzynarodowe Zawody Lekkoatletyczne o Memoriał J. Kusocińskiego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.05 „Pasja życia" — film fab. USA. 23.00 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 21.VI.**

15.20 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.25 „Echo stadionu". 17.50 „Kino Filmów Animowanych". 18.15 „W jaskiniach Kaukazu" — film Tele-Aru. 18.30 „Czterdzieste Jubileuszowe" — rep. z MTP. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: Ion Luca Caragiale — „Zgubiony list". 21.40 „Dialogi historyczne". 22.10 „Nowości w piosence studenckiej". 22.40 Dziennik.

**Wtorek 22.VI.**

10.00 „Za frontem" — film fab. radz. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przed nami wakacje". 15.20 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran Młodych. 18.25 „Zamki na piasku" — film radz. 18.40 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Za frontem" — film fab. radz. 21.30 „Incognito kwartet" — filmowy program rozrywkowy. 21.45 „Polska zza siódmej miedzy". 22.15 Dziennik.

**Środa 23.VI.**

10.00 „Randall — duch Hopkirka" — film ang. 14.25 Program dnia. 15.00 Sprawozdanie z meczu piłki nożnej o Mistrzostwo I ligi: Legia (Warszawa) — Zagłębie (Sosnowiec). W przerwie ok. 15.45 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Między kadrem a perforacja" („Telewizja i ty"). 17.15 Magazyn ITP. 17.30 „Dla kogo świeci słońce". 18.00 Psychologia najmłodszych". — film („Świat, w jakim żyjemy"). 18.30 TV Kurier Warszawski. 18.45 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Randall i duch Hopkirka" — film ang. 20.55 „Światowid". 21.25 „Pochwała motoryzacji". Tekst — M. Zoszczenko. 22.10 „Lektury współczesne". 22.20 PKF. 22.30 Dziennik. 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka.

**Czwartek 24.VI.**

15.20 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.40 „Zrób to sam". 17.55 „Inżynierskie dylematy". 18.25 TV Kurier Lubelski. 18.40 „Kwiaty, drzewa, ptaki, ludzie...". Prowadzenie programu i reż. — W. Siemion. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Witamy w Opolu" — rep. film. 20.30 IX Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Po transmisji — Film fabularny. 23.50 IX Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu — „Koncert Piosenki Kabaretowej".

**Piątek 25.VI.**

10.00 „W potrzasku" — film fab. ang. 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora". 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Za kierownicą". 18.20 „W potrzasku" — film fab. ang. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 IX Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Premiery — Opole 71". W przerwie ok. 21.30 Dziennik.

**Sobota 26.VI.**

10.00 „Śmierć karpia" — film fab. czechosł. 15.50 Program dnia. 15.55 Program tygodnia. 16.15 „Oferty". 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: „Płyń po morzach i oceanach" — koncert dziecięcych zespołów artystycznych z Gdańska. 17.40 „Wydawnictwa proponują". 17.55 „Spotkania z przyrodą". 18.20 „Cluj tańczy i śpiewa" — rumuński program folklorystyczny. 18.35 „Tele-Echo". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.30 IX Krajowy Festiwal Polskiej Piosenki w Opolu. „Mikrofon i ekran". W przerwie ok. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe. Po transmisji: „Śmierć karpia" — film fab. czechosł.




**Piątek, 18 czerwca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.40 Film fab. 9.45 Szlakami tworzenia. 10.15 Twórcy ludowi. 10.45 Nowiny. 14.15 Program dnia. 14.20 Ekran — maturzystom. 15.20 Horyzonty postępu technicznego. 15.50 Film animowany dla dzieci. 16.10 Panorama nowin. 16.30 Poczta połowa. 17.00 W eterze „Młodość". 18.30 Czas. 19.00 W eterze „Młodość". 20.10 Mistrzostwa Europy w boksie. Półfinał. 21.55 Nowiny.

**Sobota, 19 czerwca**

7.50 Koncert. 8.30 Dla dzieci. 9.00 Przed V Spartakiadą narodów ZSRR. 9.30 Szkatułka muzyczna. 9.45 Przegląd międzynarodowy. 10.00 Nauka dziś. 10.30 Koncert życzeń. 11.10 Człowiek i przyroda. 11.30 Rubieże pięciolatki. 11.45 Film fab. 12.40 Uniwersytet ludowy. 13.20 Filmy animowane dla dzieci. 14.05 Trybuna pisarza. 14.30 Festiwal TV. 16.00 Nowiny. 16.05 Film. 17.00 Piłka nożna. „Dynamo" (Kijów) — „Torpedo" (Moskwa). 18.45 Nowiny. 19.00 Mistrzostwa Europy w boksie. Finał. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 20 czerwca**

7.30 Filmy animowane dla dzieci. 8.30 Kiosk muzyczny. 9.30 Film fab. 11.05 Problemy architektury radzieckiej. 11.35 Dla żołnierzy. 12.00 Śpiewa Miansarowa. 12.40 Dla wsi. 13.10 Spotkania muzyczne. 13.45 Poszukiwania. 14.30 Wielki Teatr. 16.00 Nowiny. 16.05 Klub filmowy. 17.00 W eterze „Młodość". 19.00 Czas. 19.30 Teatr miniatur. 20.40 Koncert. 21.25 Mistrzostwa Europy w podnoszeniu ciężarów. 21.55 Nowiny.

38.

тым нагнуўся і кулаком падняў немцаў падбародак. Немец ап'янела бяспросыпна спаў.

— Ах, абармоціна! Ды ён жа быў п'яны! — даўмеўся старшы лейтэнант. А я на яго шчэ гарэлку псаваў! Ось жа гад! Паскуда! Дапыталі, называецца. Цьфу, дурні набітыя!..

— Як бобікаў, абхітрыў! — абурыўся камандзір роты. — Цяпер чакай! Да раніцы ты з яго ні чорта не выцягнеш. Гэта ўжо я знаю!

— Мне дазвольце ісці? — змрочна запытаў Шнэйдар. Ананьеў павярнуўся да яго, але адказаў не адразу.

— Глядзіце там. Могуць сунуцца ўначы. Каб не праспалі.

— Не праспім, — буркнуў перакладчык.

— То-та!

Закінуўшы за плячо аўтамат, Шнэйдар вылез у траншэю. Ананьеў сеў на ранейшае месца побач са мной, падабраў доўгія ногі.

— Піліпенка, давай талковага хлопца. Данясенне адправіць.

Старшына, не мяняючы гняўлівага выразу твару, моўчкі ўстаў і пасунуўся да выхаду.

У бліндажы настала маўчанне.

Цвяткова пляшка ляжала на скрынцы нават не завінчаная, хлеба застаўся адзін невялікі кавалак. Камандзір роты згроб яго і адразу адкусіў палавіну.

— Камісар, — сказаў ён, жуючы, — дай-ка паперку.

Грыневіч расшпіліў пульхную, як пакунак, сумку, пашукаў там, выдраў з нейкага сшытка старонку, дастаў з скуранай ячэйкі аловак і ўсё гэта падаў камандзіру роты.

— Думаў, пакуль што пашлю пару звестак аб праціўніку, — казаў Ананьеў. — Ды во пашлеш! Абармот, а не фельдфебель. Цвяткоў, а ну пасвяці — ні чорта не відаць.

Цвяткоў зняў з палічкі плошку і на каленях паслужліва схіліўся да камандзіра роты.

Дажоўваючы хлеб, Ананьеў пачаў пісаць. Мне не відно было, што ён там не дужа бойка выводзіў цвёрдым чарнільным алоўкам, маёй увагай завалодаў Цвяткоў, які адным вокам касіў туды, і выраз яго асветленага знізу твару неяк дзіўна мяняўся. Нешта паблажліва-ўсмешыстае з'явілася ў гэтым позірку адным вокам. Неўзабаве санінструктар грубавата заўважыў:

— Не данісенне, а данясенне.

Ананьеў кінуў на яго недаверлівы позірк.

— Ну да? Скажы мне! Можа яшчэ вучыць будзеш?

Цвяткоў ніяк не адрэагаваў на гэтую не сказаць каб дабрадушную рэпліку — нібы яна яго зусім і не датычыла — і зусім бяскрыўдна зазначыў:

— І не заніў, а заняў. Заняў вышыню, так трэба.

Ананьеў, нібы шукаючы падмогі, знарок няўцямна зірнуў на мяне, затым на Грыневіча. Намеснік з нейкім стрыманым разуменнем перасмыкнуў вуснамі, але змоўчаў. Звяртаючыся да яго, старшы лейтэнант сказаў:

40.

— іх падначаленыя, і тактоўны нампаліт не хацеў у іх прысутнасці развіваць спрэчкі.

— Вось напішу сорак сем! — раптам вырашыў Ананьеў. — І будзе правільна. Паняў? Хай хто палічыць. Ну, ды свяці ты! Нічога не відаць...

— Няма чым: дагарае...

Плошка сапраўды дагарала, болей святла ў нас не было, рэшту ночы выпадала сядзець у цемры. Ананьеў торапка падпісаў данясенне, агеньчык у далонях Цвяткова сцяўся да маленькай іскрынкі і патух. Суцэльны змрок апанаваў бліндаж.

— Так, — сказаў у гэтай цемры камандзір роты. — Кімарнем на пераменку. Давай, камісар, пачынай першы.

— Ды ну! Не дужа кімарнеш тут...

Нампаліт не дагаварыў, але і без таго ўсе мы разумелі ход яго думак. Людзі стаміліся за гэтае наступленне па гразі, было галаднавата, патронаў хапала на адзін нядоўгі бой. Да раніцы наўрад ці падыдуць суседнія батальёны: другі завязнуў пад Курапяцінам, трэцяга нешта зусім не чутно. А кедзе побач стаіўся вораг. Хто ведае, што ён задумаў?

Нібы адгукаючыся на яго клопат, камандзір роты сказаў:

— Трохі пасяджу і пайду ва ўзводы. А ты, Васюкоў, давай даві вуха. Прывыкай. Цяпер у цябе новая пасада — ранбальной.

Ля ўваходу пачуліся крокі, зашэрхала палатка, нехта нябачны ўвайшоў у бліндаж і сціх, аслеплены цемрай.

— Хто гэта? — запытаў Ананьеў.

— Радавы Шапа, таварыш старшы лейтэнант, — пачуўся са змроку знаёмы шапялявы голас.

— А, Шапа! Слухай сюды, Шапа! Табе важнае баявое заданне. Рванеш у Бражнікі з данясеннем. Знаеш Бражнікі? Ну, дзе нас «юнкерсы» бамбілі. Там знойдзеш маёра Сырамятнікава — уручыш... Паняў?

— Паняў, таварыш старшы лейтэнант.

— Кіламетраў дванаццаць. Знаю, не спаў, не еў, не адпачываў. А трэба. Спаткаеш старшыну — напраўляй сюды. Скажы: я з яго душу выму і другую ўстаўлю.

— Ясна.

— Калі ясна, бяры дакумент і — алюр тры красты...

Шапа хуценька выйшаў. Ананьеў вальней выцягнуў ногі, прыхінуўся спіной да сцяны бліндажа.

— Камісар, не спіш?

— Не. А што?

— Знаеш, вось думаю: маёр, таварыш Сырамятнікаў... Выконваючы абавязкі камандзіра палка. Двойчы ардэнаносец і так далей. Выклікае якога Івана — узводнага — у таго калені дрыжаць. А ты знаеш, год назад мы з ім у трэцім батальёне ротамі камандавалі.

— Ну і што? — супакоена азваўся ў цемры Грыневіч. — Што ж тут дзіўнага? Вайна, вылучэнне.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# БРЭСЦКАЯ КРЭПАСЦЬ



*Брэсцкая крэпасць. Адсюль пачалася Вялікая Айчынная вайна.*



*У музеі Брэсцкай крэпасці. Скульптура Белавусава «Памрэм, але не здамося».*

КУТОК ГАСПАДЫНІ

# ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

## УСЁ З ВІТАМІНАМІ

Нарэшце чэрвень у разгары, дык прапануем выкарыстаць як мага больш гародніны і фруктаў у сваім штодзённым меню. Трэба аднак памятаць, што ўсе вітаміны (а асабліва віт. С) надзвычай далікатныя і раскладаюцца пад уплывам сонца, вады і высокай тэмпературы. Дык каб захаваць у гародніне магчыма найбольшую колькасць вітамінаў, неабходна:

гародніну і фрукты спачатку паласкаць, а пасля абіраць і рэзаць, не трымаючы задоўга ў вадзе;

салаты падрыхтоўваць заўсёды перад самай падачай на стол, каб былі свежыя;

варыць гародніну нядоўга, у невялікай колькасці вады, пад крышкай;

зваранай стравы не трымаць, як зварыцца, на гарачай пліце;

салаты запраўляць натуральнымі квасамі і алеем.

Каб не быць галаслоўнымі, падаем пару рэцэптаў на пачатак летняга сезона.

## ВЕСНАВЫ САЛАТ

На салат бярэм пучок радыскі, 1 пору, пучок салаты, кавалак валошскай капусты, зялёную цыбулю. Гародніну старанна памыць, нарэзаць даволі дробна. У місцы расцерці з соллю зубок часнаку, дадаць крыху алею і лімоннага соку. Гародніну вымяшаць з падрыхтаваным соўсам, а зверху палажыць парэзанае крутое яечка.

## СУП З МАЛАДОЙ КАПУСТЫ

На малы качан капусты трэба ўзяць кавалак свіной галёнкі, лаўровы лісток, некалькі зёран перцу, невялікую баначку таматнага соку. Памытае мяса заліць халоднай вадой, дадаць прыправы і варыць на даволі вялікім агні каля гадзіны. Пасля дадаць нашаткаваную капусту і варыць яшчэ мінут 30. Зрабіць засмажку з мукі і лыжкі тлушчу, закіпяціць і адставіць кастрюлю з агню. Уліць таматны сок, усыпаць нарэзаную зеляніну. Падаваць капусту з бульбай, а галёнку з хрэнам.

## ХАЛАДНІК З ПАМІДОРАМІ

2 шклянкі кіслага малака, банку таматнага соку і паўшклянкі смятаны збіць венічкам на пену, дадаць па смаку соль і цукар. Пучок радыскі, зялёнай цыбулі і пятрушкі дробна нарэзаць і дадаць у халаднік. Падаваць у кубках. Можна з бульбай, можна з хлебам.

## САЛАТ З БУРАКОЎ

3/4 кілаграма дробных бурачкоў вышараваць і зварыць з лупінкамі. Калі стануць мяккія, адцадзіць, паліць халоднай вадой, абабраць, сцерці на бульбяной тарцы. Перад падачай разагрэць іх на агні, дадаўшы солі, цукру і лыжачку масла. Зняўшы з агню, дадаць сок з цэлага лімона і, калі ўжо ёсць, сцерці на тарцы яблыка.

*Гаспадыня*

Пачатак на стар. 1

# ПРАВАЛ ПЛАНА "БАРБАРОСА"

была ў зеніце сваёй магутнасці. Эканамічныя магутнасці, што былі ў яе распараджэнні, пераўзыходзілі магутнасці Савецкага Саюза. Так, сярэднявяковая вытворчасць (1941—1944 г.г.) у Германіі складала: сталі — 32 мільёны тон, вугалю — 390—460 мільёнаў тон, электраэнергіі — 83 мільярды кілават-гадзін, нафты — 15 мільёнаў тон. У СССР: сталі — 11 мільёнаў тон, вугалю — да 100 мільёнаў тон, электраэнергіі — 36 мільярдаў кілават-гадзін, нафты — 22 мільёны тон.

Фашысты, безумоўна, разумелі, што ў асобе Савецкага Саюза і яго арміі яны сустрэнуць упартага і моцнага праціўніка, што вайна на Усходзе будзе па маштабах і напружанню баёў значна больш складанай і цяжэйшай, чым на Захадзе. Але падыходзілі яны да ацэнкі савецкай сілы з шаблоннай прускай меркай, з пазіцыі «бліцкрыга». Старанна лічылі дывізіі і палкі, танкі і самалёты, але не бачылі карэнных адрозненняў арміі сацыялістычнай дзяржавы ад узброеных сіл краін Захаду. Не ў стане яны былі прадбачыць і таго, што савецкая прамысловасць, маючы ў тры разы менш металу і электраэнергіі, у чатыры разы менш вугалю, створыць амаль у два разы больш баявой тэхнікі, чым фашысцкая Германія.

К чэрвеню 1941 года Германія давяла колькасць сваіх узброеных сіл да 8,5 мільёна чалавек. Тры чвэрці з іх былі кінуты для нанясення ўдару па Савецкім Саюзе. Разам з войскамі сатэлітаў армія захопнікаў налічвала 190 дывізій поўнага саставу, амаль 5 тысяч самалётаў, каля 2.800 танкаў, 48 тысяч гармат і мінамётаў. На тылавых складах збіралася вялікая колькасць баявой тэхнікі, што ішла з заводаў (за 1940 і 1941 гады ў Германіі было выпушчана звыш 21 тысячы самалётаў і 7.400 танкаў). Такім чынам, праціўніку ўдалося стварыць перавагу над савецкімі войскамі прыгранічных акруг. Асабліва вялікай яна была на цэнтральным напрамку.

Трэба таксама ўлічваць, што нямецка-фашысцкая армія была загадзя адмабілізавана, набыла амаль двухгадовы вопыт баёў, а таксама вопыт узаемадзеяння сухапутных войск з авіяцыяй.

Гераічна сустрэлі савецкі народ і яго Узброеныя Сілы здрадніцкі ўдар. Паколькі будаўніцтва ўмацаванняў на новай граніцы было яшчэ не завершана, злучэнні Чырвонай Арміі часцей за ўсё разгортваліся прама з месца разгрузкі і адразу ж уступалі ў бой. Вораг нанёс вялікія страты войскам першага эшалона. Яго танкавыя калоны прарваліся за першыя дзесяць дзён далёка ў глыб савецкай тэрыторыі. Яго самалёты бамбілі гарады Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі. Але няўдачы пачатку вайны не зламалі баявога духу савецкіх воінаў, не разладзілі стратэгічных

